# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND" |
|---|---|---|

№ 9 (493) — Нядзеля, 28 лютага 1960 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


# У ЦК КПСС ня ўсё ладна

Шматлікія падзеі, што адбыліся ў кіраўнічых колах Савецкага Саюзу ў канцы сьнежаня 1959 году і ў студзені сёлета, нягледзячы на іхную быццам-бы аднароднасьць, а часамі й супярэчнасьць, цесна зьвязаныя міжсобку. Яны выразна адлюстроўваюць цяперашнюю лінію нутраной палітькі Хрушчова й паказваюць на завайстрэньне крызысу ў ЦК КПСС. Да гэтых падзеяў у прыватнасьці належаць:

1) Прапарацыя лічбаў аб дасягненьнях асваеньня цалінных земляў.

2) Аказаньне супраціву сельскагаспадарчай палітыцы Хрушчова на сьнежаньскім пленуме ЦК ды зьмена лініі ў прынцыпах матар'яльнай зацікаўленасьці калгасьнікаў.

3) Пахвала кіраўніцтву Казахстану за дасягненьні ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі ды жорсткая крытыка яго за недахопы ў той-жа самай галіне (уключаючы й адкліканьне Бяляева з пасады 1-га сакратара ЦК Казахскай кампартыі ды ўзнагароджаньне яго мэдалем за ўдачы сельскае гаспадаркі ў Казахстане).

4) Упадак Кірычэнкі (назначэньне яго на пасаду сакратара Растоўскага абкому КПСС) і працэс замены старых кіраўнічых партыйных кадраў партыйцамі маладога пакаленьня.

5) Пастанова ЦК КПСС — «Аб заданьнях партыйнай прапаганды».

6) Пастанова ЦК і Савету міністраў СССР — «Аб мерапрыемствах для далейшага палепшаньня мэдыцынскага абслугоўваньня».

7) Прыняцьце сэсіяй Вярхоўнага Савету СССР «Закону» аб скарачэньні збройных сілаў СССР.

8) Пастанова ЦК КПСС і Савету міністраў СССР — «Аб мерапрыемствах для збольшаньня вытворчасьці й палепшаньня якасьці харчовых прадуктаў з бульбы, кукурузы, гародніны . . .»

Першая частка гэтых падзеяў, зьвязаных із сьнежаньскім пленумам і пытаньнямі сельскае гаспадаркі, паказвае на правал хрушчоўскай сельскагаспадарскай палітыкі й на ўзмацненьне нутранога крызысу ў ЦК, другая — на спробу замаскаваць гэтыя зьявішчы і аднавіць аўтарытэт Хрушчова.

Да мерапрыемстваў, накіраваных на аднаўленьне аўтарытэту прэзыдыюму ЦК й асабіста Хрушчова, трэба аднесьці ў першую чаргу пастанову Вярхоўнага Савету СССР з 15. 1. 1960 году аб скарачэньні савецкай арміі.

Гэтая праклямацыя шырока выкарыстоўваецца ў вонкавай палітыцы перад нарадай кіраўнікоў урадаў 4-ох дзяржаваў. Савецкае кіраўніцтва надзвычайна зацікаўлена таксама ў вызваленьні працоўнае сілы й матар'яльных рэсурсаў для забясьпечаньня выкананьня 7-гадовага пляну й для пашырэньня эканамічнай дапамогі краінам Афрыкі, Азіі, і Лацінскай Амэрыкі, якая мае важнае палітычнае значаньне.

Аднак-жа, савецкая прэса ўвесь час падчырквае што **ўсе гэтыя дасягненьні будуць ужытыя вылучна для дабра савецкага народу, для хутчэйшага дасягненьня «багацьця» ў краіне.**

У тым-жа пляне 20 студзеня савецкая прэса апублікавала пастанову ЦК КПСС і Савету міністраў СССР «Аб мерапрыемствах для далейшага палепшаньня мэдыцынскага абслугоўваньня й аховы здароўя жыхарства СССР».

«У выніку новага скарачэньня збройных сілаў, — піша «Правда» з 20. 1. 1960 г., — наш народ, наша краіна атрымае значную частку закономленых сяродкаў на далейшае палепшаньне дабрабыту савецкага народу».

Імкненьне савецкага кіраўніцтва выклікаць уражаньне сярод народных масаў у гэтай пастанове выкладзена запраўды дзіўна. У ёй загадам прапануецца ліквідаваць захвораньні дыфтэрыяй, тулярміяй, паліамэлітам, малярыяй, анкілястамозам, трахомай і інш., «раскрыць» прычыны «захворваньня ракам і іншымі дрэннаякаснымі опухамі» й распрацаваць меры «іх папярэджаньня й эфэктыўнага лячэньня».

Усе гэтыя шматабяцальныя праклямацыі, як і «спагадлівае» дачыненьне да апазыцыі ў прэзыдыюме ЦК тлумачыцца, зразумела, ня клопатамі Хрушчова й ягоных «саратнікаў» аб дабры дароду й ня іх дабратой да сваіх праціўнікаў. Усё гэта вынік нутранапалітычных цяжкасьцяў ды значных разыходжаньняў у самым ЦК.

Хрушчову ўдавалася плысьці між Сцылай і Харыбдай стала ўскладненага паложаньня.

Ужо цяпер відаць, якія небясьпекі крыюцца ў праклямаваных цяпер мерапрыемствах.

І так «закон» аб скарачэньні арміі выклікаў у васяродзьдзі вайскавікоў ды асабліва ахвіцэраў арміі й флёты запраўднае незадаваленьне.

Міністэрства абароны СССР заплянавала здэмабілізаваць 250 тысяч ахвіцэраў. Ні савецкая прэса, ні вайсковыя кіраўнікі ня скрываюць вялізарных цяжкасьцяў, якія сустрэнуць звольненыя з арміі й флёты ды іхныя сем'і. Ахвіцэры вельмі цёмна прадстаўляюць сваю будучыню. Маліноўскі заклікаў да патрыятызму й камуністычнага абавязку ды патрабаваў ад іх «праявіць правільнае разуменьне й правільнае дачыненьне да паўсталых абставінаў». Аднак Маліноўскі сканстатаваў, што кіраўнічыя пасады ў народнай гаспадарцы й дзяржаўным апараце ў бальшыні сваёй занятыя «дастойнымі савецкімі людзьмі й нельга іх здымаць, каб вызваліць месца ахвіцэру».

Ажыцьцяўленьне пляну дэмабілізацыі з прапагандовага дасягненьня, выкарыстоўванага асабліва навонкі, ператвараецца ў хвалю незадаваленьня.

З выкананьнем праклямаванага абяцаньня павышэньня матар'яльнага дабрабыту народу справа выглядае таксама ня вельмі добра. У вартыкуле «Другі год сямігодкі» («Коммунист», № 1, 1960) прыводзяцца лічбы збольшаньня вытворчасьці прадуктаў спажываньня й прадуктаў шырокага ўжытку ў 1960 годзе. Паводля гэтых дадзеных, да канца году ў дзень на душу жыхарства будзе выпадаць: 0,3 курыннага яйка, 30,1 грама рыбы, 123 грамы мяса й ды колькасьць малака й усіх малочных прадуктаў роўная 3/4 літра малака.

У гэтым дачыненьні надзвычай паказальнай зьяўляецца пастанова ЦК КПСС і Савету міністраў СССР «Аб мерапрыемствах для збольшаньня вытворчасьці й палепшаньня якасьці харчовых пра-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Зробім добрую справу

**Сёлета прыпадае 40-ая гадавіна сьмерці выдатнага беларускага нацыянальнага паэты нашаніўца Алеся Гаруна (Аляксандра Прушынскага). Алесь Гарун, пасьля Купалы, Коласа й Багдановіча, зьяўляецца найвыдатнейшым беларускім паэтам нашаніўскага пэрыяду, а ягоныя паэтычныя творы займаюць важнае месца ў беларускай літаратуры й згулялі ў свой час вялікую ролю ў фармаваньні беларускай нацыянальна-адраджэнскай ідэялёгіі. Апрача гэтага, Алесь Гарун быў і выдатным беларускім нацыянальным і палітычным дзеячом.**

**У той час, як бальшавікі ўсё-ж выдаюць творы Купалы, Коласа й Багдановіча, хоць і старанна прасяваючы іх празь сіта сваей цэнзуры, Алесь Гарун, як і Ядвігін Ш. ды Карусь Каганец і шмат іншых, належаць да аўтараў поўнасьцяй забароненых. Мы на чужыне мелі шчасьлівую змогу выдаць частку твораў Купалы, Коласа й Багдановіча, але з цэннай літаратурнай спадчыны Гаруна дагэтуль ня выдалі яшчэ нічога. Далей ня можам сабе пазволіць на такую няўвагу да Алеся Гаруна і дапусьціць, каб ягоная сьветлая постаць і глыбока патрыятычныя творы былі намі зусім забытыя й для шырэйшых колаў грамадзтва недаступныя.**

**Прыгатаўляючы выданьне «Вянка» Максіма Багдановіча і ня маючы на гэта матарыяльных магчымасьцяў, мы яшчэ ад 1957 году цераз прадстаўнікоў нашага Выдавецтва й пры дапамозе нашых грамадзкіх арганізацыяў зьбіралі сьціплыя грашовыя складкі, якія ўсё-ж дазволілі, хоць толькі сёлета, выпусьціць салідную й цэнную кніжку Багдановічавых твораў — «Вянок».**

**Дык зробіма гэтак і з выданьнем твораў Гаруна! Найлепшай нагодай да распачацьця акцыі зьбіраньня грошай на выданьне Гаруновых твораў можа быць сёлетняе сьвяткаваньне гадавіны 25-га Сакавіка. Гэты вялікі дзень у нашай гісторыі кажны Беларус так ці іначай павінен адзначыць нейкім добрым учынкам для беларускай справы. Дык няхай гэтым добрым учынкам будзе сёлета грашовая ахвяра на выданьне Гаруновых твораў.**

**Пасьля выданьня кніжкі твораў Гаруна кажны з ахвярадаўцаў зможа атрымаць бясплатна столькі яе экзэмпляраў, колькі будзе выносіць ягоная складка.**

**Мы зьвяртаемся да ўсіх Прадстаўнікоў нашага Выдавецтва, беларускіх грамадзкіх арганізацыяў і паасобных грамадзян з гарачай просьбай энэргічна правесьці гэтую акцыю. Мы таксама зьвяртаемся да ўсяго нашага грамадзтва належна на гэтую акцыю адгукнуцца й даць, колькі хто можа.**

**Дык зробіма гэтую добрую справу!**

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

# Будуем, але як?

Нядаўна ў савецкіх газэтах было зьмешчана паведамленьне Цэнтральнага Статыстычнага Кіраўніцтва ВССР «Аб выніках выкананьня дзяржаўнага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі Беларускай ССР». У паведамленьні адзначаны вялізарныя дасягненьні ўва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Зьвяртаюць увагу тыя «надзвычайныя» дасягненьні ў выкананьні плянаў агульнага будаўніцтва. У дзяржаўным і каапэрацыйным будаўніцтве аказваецца, пляны ня толькі выкананыя, але й перавыкананыя. Прыватнай ініцыятывай у саўгасах і леспрамгасах пабудавана 900 тысяч квадратных мэтраў. Улічана навет ды й высока ацэнена й тое жыльлёвае будаўніцтва, якое праводзілася калгасьнікамі й сельскай інтэлігенцыяй за собскія сяродкі. Такіх дамоў пабудавана за мінулы год аж 28 тысяч.

У савецкай прэсе быў адзначаны толькі адзіны нібы невялічкі недахоп: засталіся нявыкарыстанымі ўсе сяродкі на школьнае будаўніцтва, на бальніцы й дзіцячыя яслі. А між тым у паведамленьні адзначана, што пляны будаўніцтва выкананыя за 1959 год аж на 103 працэнты. Такі гладкі выгляд мае афіцыйнае паведамленьне аб самай балючай галіне будаўніцтва, у якім зацікаўленыя працоўныя масы Беларусі. Апрача гэтых афіцыйных паведамленьняў ніводзін з бальшавіцкіх правадыроў не забывае адзначыць у сваіх выступленьнях посьпехі жыльлёвага будаўніцтва.

А вось малюнак тых кватэраў, якія так прыгожа апяваюцца афіцыйнымі паведамленьнямі. Звычайна ў самы кароткі час пасьля засяленьня новае кватэры на падлозе зьяўляюцца вялізарныя шчыліны, бо падлогу кладзецца з сырых дошчак. Вушакі разам зь дзьвярыма калываюцца. У лепшым выпадку дзьверы не зачыняюцца, а калі й зачыняюцца, то адчыніць іх амаль няма магчымасьці безь якіх-небудзь адумысловых прыладаў.

Шмат клопатаў жыхаром робяць форткі, зашчыпкі, шпінгалеты, покуль іх адчыніш, а таксама, калі даводзіцца зачыняць. Усе гэтыя рэчы сваімі формамі й памерамі не дапасаваныя да вокнаў. Вонкавы выгляд іх аднастайны й вельмі прымітыўны, а якасьць зусім дрэнная.

Як агульнае зьявішча атынкоўка й пабелка кватэр — дрэннай якасьці. Зь нядбайнасьці маляроў забруджваюцца хварбамі падлога, падаконьнікі, парогі, радыятары й іншыя дэталі ў кватэры.

Нядбайна й на сьмех укладаюцца трубы для ацяпленьня, вадаправоду, газу. Над кухоннымі печамі няма ніякіх выцягальных трубаў, а таму кухні чадныя. Усе гэтыя, здавалася-б, дробязі прыносяць шмат клопатаў, а усялякія папраўкі браку абыходзяцца дорага. Для прыкладу возьмем 45-кватэрны дом у Берасьці, дзе давялося нанава рабіць пабелку, якая каштавала 15 тысяч рублёў.

Нельга спыніцца й на тэй нізкай якасьці будаўляных матар'ялаў, якія йдуць на будаўніцтва. На менскім камбінаце будаўнічых канструкцыяў брак цэглы дасягае 38 працэнтаў, на цагляным заводзе № 2 — 27 працэнтаў, а на цагляным заводзе № 4 — 44 працэнты. І частка гэтых нягодных матар'ялаў трапляе на будаўніцтва.

Пералічаныя недахопы не зьяўляюцца якой-небудзь выдумкай ці прыдзіркай капрызнага карэспандэнта газэты. Аб усіх гэтых недахопах пісаў заступнік старшыні Савету міністраў БССР В. Каменскі ў «Советской Белоруссии» 8 лютага сёлета.

Нельга вінаваціць у нядбайнасьці работнікаў-будаўнікоў. Ад іх патрабуецца надзвычайнай эканоміі будаўляных матар'ялаў. У той-жа газэце з 11 лютага г. г. адзін з брыгадзіраў будаўнікоў піcаў: «Вядома, што на кажным будаўніцтве ёсьць бітая цэгла, абрэзкі дошчак і г. д. У нас усё гэта йдзе на будаўніцтва, пры насьціле падлогі мы выкарыстоўваем кускі дошчак... Ад работнікаў будаўнікоў патрабуецца павышэньня вытворчасьці працы не за кошт новых мэханізмаў, а за кошт хуткасьці. Патрабуюцца тэмпы, а ўмоваў няма.»

Няма сумлеву, што жыльлёвае будаўніцтва прыватным спосабам удаецца лепш. Аднак трэба мець надзвычайны спрыт і шмат капіталу, каб у савецкіх умовах пабудаваць сабе жыльлё. Колькі каштуюць будаўляныя матар'ялы? Дастаткова сказаць, што за адну цагліну трэба заплаціць 4 рублі 50 капеек на прыватным рынку. А колькі клопатаў і часу трэба мець, каб атрымаць месца для будоўлі?

**В. Б.**

## ДА ПАВАЖАНЫХ СУПРАЦОЎНІКАЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Нумар «Бацькаўшчыны» за 17-га красавіка сёлета будзе з чаргі 500-ым нумарам. Каб належна адзначыць гэтую важную для нас, а для ўсёй беларускай прэсы на эміграцыі першую падзею, Рэдакцыя пляную гэты 500-ы нумар сваёй газэты выпусьціць вялікім разьмерам, багата ілюстраваным і разнастайным сваім зьместам. Асаблівым пажаданьнем Рэдакцыі ёсьць, каб усе нашыя супрацоўнікі — публіцыстыя, навукоўцы, паэты, пісьменьнікі, мастакі, гумарыстыя й наагул карэспандэнты, якія да гэтага часу друкавалі свае творы або зьмяшчалі ілюстрацыі на бачынах «Бацькаўшчыны», што-небудзь спэцыяльна прыгатавалі да ейнага 500-га нумару. Пісаць просім на розныя тэмы, не абавязкава зьвязаныя зь юбілеем. Дзеля таго, што нумар гэты будзе прыгатаўляцца й друкавацца загадзя, усе матар'ялы, для гэтага нумару прызначаныя, ветліва просім прысылаць у Рэдакцыю не пазьней 15-га сакавіка сёлета.**

**З пашанаю**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

## „Усё — для чалавека"

Лёзунг «усё — для чалавека» бальшавіцкая прапаганда паўтарае ўжо 42 гады. Таму ён гучыць непераканальна й ня робіць вялікага ўражаньня на савецкае грамадзтва. Яно проста страціла веру ў гэты лёзунг, як і ў шмат іншыя, прыдуманыя за 42 гады бальшавіцкімі кіраўнікамі.

Газэта «Зьвязда» ў 17-ым нумары гэтага году шырока разглядае гэтую праблему. «Усё для чалавека» — заяўляе, у сваю чаргу, перадавіца «Правды» 28-га студзеня.

Сяньня мы зварачаем увагу нашых чытачоў на газэту «Зьвязду».

У вадным тым самым нумары «Зьвязды», на аднэй і тэй самай бачыне — два артыкулы. У вадным заклікаюць усіх людзей «бліжэй стаяць да чалавека» й паўтараюць перацёртыя прапагандай шаблённыя выразы аб «клопатах» партыі і ўраду; у другім мы чытаем, як усё гэта выглядае ў запраўднасьці.

Вось прылады.

У вёсцы **Фалькі** Вялейскага раёну 70 двароў, а крамы ніводнай. Па тавары штодзённага ўжытку трэба хадзіць па некалькі кілямэтраў.

У вёсцы **Хадасы** «вада — на вагу золата. Памыцца няма дзе, бо няма ніводнай лазьні.»

Мэханізатары мусяць уставаць да золаку, бо каб прыйсьці сваечасова да месца працы, «трэба зрабіць 10 кілямэтраў з гакам». На месцы працы няма сталовак і цёплай стравы.

«Аб іхным быце (гэта значыць работнікаў), аб умовах працы няма яшчэ запраўдных клопатаў ...» — прызнаецца газэта.

«Ня лічацца з нашымі патрэбамі кіраўнікі саўгасу» — скардзяцца жыхары вёскі **Хадасы.**

Прыклад, як ведама, заўсёды ідзе зьверху: калі ня лічацца зь людзьмі кіраўнікі саўгасаў, дык ня лічацца зь імі й кіраўнікі раёнаў, вобласьцяў і рэспублік Савецкага Саюзу. Калі-б крамлёўскія валадары шчыра праймаліся лёзунгам — «усё — для чалавека», дык і кіраўнікі раёнаў, вобласьцяў і рэспублікаў бралі-б гэты лёзунг усур'ёз. А так атрымоўваецца, як у старой прыказцы: «Мялі, Ямеля, твая нядзеля!» . .

Прыгаданы артыкул з 17-га нумару «Зьвязды» мае загаловак: «Не адным салам сыты рабочы». Мы-б яго крыку зьмянілі, а менавіта: «Не аднымі лёзунгамі жыве чалавек»... Хіба гэта ня праўда?

**пс**

# Куды дзеліся?

Што дзесяць год у Амэрыцы праводзіцца агульны перапіс жыхарства (census). Наступны, а 18-ы ад пачатку, пачнецца 1-га красавіка 1960 году. Якіх толькі дэталяў аб складзе жыхарства гэтыя перапісы не абыймаюць! Але нас цікавіць найбольш з усяго адзін факт: што Беларусаў і беларускага паходжаньня жыхарства зусім не падаецца; хоць іншыя, шмат меншыя нацыі заўсёды фігуруюць. Прыкладам, нашая малая суседка Летува ў імпануючых ліках красуецца. Апошні перапіс паказаў аж 249 825 душаў летувіскага паходжаньня, у гэтым 147 765 асобаў народжаных на Летуве. Тут само напрошваецца пытаньне — колькі-ж тады мусіць быць тут Беларусаў, чаму не зарэгістравана, пад чыё імя падшыта, куды дзеліся?

Прагал афіцыйнай статыстыкі яшчэ ня ліквідуе існаваньня жывых людзей, ані ня зьменшвае іхнай запраўднай лічнасьці. Сяньня яшчэ немагчыма спаслацца на цыфры з дакладнасьцяй да дзесяткоў, але яшчэ большая немагчымасьць не дасьцерагчы, укрываць, або пярэчыць існаваньню колькіх сот тысяч жыхароў Амэрыкі беларускага паходжаньня.

Ня трэба й перапісу, каб з большага аб гэтых тысячах пераканацца. Навет самі можам падлічыць. Зразумела, не беспасярэдня, а прыкладам пры дапамозе аналёгіі. Мэтад аналёгіі вельмі часта ўжываецца ў статыстычных падліках. Тут давядзецца выкарыстаць акалічнасьць, што ў тых часох як пачалася эміграцыя ў Амэрыку зь сярэдняй Эўропы, нашыя суседзі былі ў аналягічных гаспадарска-эканамічных абставінах. З гэтага боку якраз найтрапней да нашай эміграцыйнай праблемы падыходзіць эміграцыя Палякаў.

Абставіны бытаваньня Беларусаў і Палякаў із шмат якіх прычынаў былі вельмі падобныя, а з палітычнага гледзішча абыдва народы часта дзялілі адну й тую самую долю. Абыдва народы цярпелі зьдзек царскае акупацыі. Абыдва супольна пад адным кіраўніцтвам (Касьцюшкі, Каліноўскага) зрываліся да паўстаньняў супраць тыраніі Расеі. Па здушэньню паўстаньняў, перад аднолькавым перасьледам з аднолькавым таўром мяцежнікаў ды ў ваднолькавай прапорцыі ўцякалі ў Амэрыку. З гэтых прычынаў Беларусы з большай інтэнсыўнасьцяй эмігравалі ў Амэрыку, чымся акалічныя суседнія народы, а пэўна-ж ня зь меншай за Палякаў. Таму сьмела можна прыняць за аснову да нашых аблічэньняў статыстычныя дадзеныя эміграцыі польскага паходжаньня.

Паводля апошняга перапісу з 1950 году, жыхарства польскага паходжаньня ў Амэрыцы налічваецца 1 925 015 душаў, у гэтым 861 184 асобы народжаныя ў старым краі. Дзеля таго, што на Беларусі жыхарства ў два разы менш, чымся ў Польшчы, дык пры аднолькавай інтэнсыўнасьці эміграваньня Беларусаў магло высхаць у два разы менш, чымся Палякаў. Але прымем, што выехала ня ў два разы, а ў пяць разоў менш, чымся Палякаў (дзеля асьцярожнасьці). Пятая частка ад 1 925 000 становіць 385 тысячаў, з увагі на тое, што з усходняй часткі Беларусі крыху менш выяжджала, чымся з заходняй, адкінем яшчэ 100 тысячаў (для большай страхоўкі свайго надпусьцім, хаця каб чужога не зачапіць); усёжткі як не абразай, застаецца 285 тысячаў. Параўноўваючы гэты лік да ліку й іншых суседзяў, Летувісаў, якіх у старым краі у 8-9 разоў менш, чымся Беларусаў, лік гэты выяўляецца страшэнна абніжаным, што пацьвярджае, колькі нашага пераходзіць і адначасна выключае магчымыя дакоры ў прысабечваньні чужога. І таму сьмела можам цьвердзіць, шо ў Амэрыцы ёсьць звыш ЧВЕРЦІ МІЛЬЁНА жыхарства беларускага паходжаньня.*)

Аднак у амэрыканскіх статыстыках аб іх успаміну няма. Ці недагляд тут, ці нечая «прыслуга»?

Якая-б прычына ня была, але яна не зьмяняе скрозь назіранага факту, што ўздоўж усяго ўзьбярэжжа Задзіночаных Штатаў Амэрыкі цяжка натрапіць на мясцовасьць, дзе-б ня чуваць было беларускай мовы. Людзі, што гавораць пабеларуску, пераважна расьсяляліся групамі, а часта цэлымі аселямі. Апынуўшыся ў такой аселі, вас міла зьдзіўляе, што жыхары зварачаюцца да вас пабеларуску. Кажны жыхар аселі рады пагаварыць з вамі, папісацца роднай мовай і, як правіла, падловіць мамэнт, каб выказаць сваё задаваленьне: «прыемна спаткаць земляка, што добра гаворыць паруску». Калі-ж вы із зьдзіўленьнем зьвернеце ўвагу, што вы ўвесь час гаварылі зь ім пабеларуску, дык пачуеце апрысклівае запярэчаньне ў форме непахіснага аўтарытэту, што ён лепш ведае, паякому ён гавора. Іншыя-ж землякі з гэтае-ж самае аселі будуць вам даводзіць, што вашая мова польская, яшчэ трэйція — што ўкраінская. Затое ня знойдзецца ніводнага асабня, які-б здаваў сабе справу й прызнаўся, што ягоная мова беларуская. Вось гэтым і тлумачыцца, чаму пры перапісе не фігуруюць Беларусы.

А як да такога палажэньня дайшло, найлепш старыя эмігранты самі згодна тлумачаць. Апыніўшыся ў Амэрыцы шмат дзесяткоў год таму, бяз мовы, бяз грошай ані праваднікоў, туляліся яны тут цэлымі месяцамі, шукаючы працы й прытулішча. Заўсёды канчалася тым, што траплялі на прыслужных дзядзькоў, якія разумелі іхную мову. Першым нямінучым пытаньнем было: хто вы такія? Тут ужо не падыходзіла адказаць звыклым «тутэйшыя», таму бяз большага надуму адказвалі: мы польскай веры, а яны рускай. Адным паказвалі касьцёл, другім царкву. Выбару ня мелі, і гэткім парадкам праз касьцёл і царкву

*- Паводля беларускага дасьледніка А. Смоліча яшчэ перад першай вайной у Амэрыку эмігравала 300-500 тысяч Беларусаў, а паводля Я. Дылы — нават каля мільёну. — **Рэд.**

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

# У ЦК КПСС ня ўсё ладна

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

дуктаў з бульбы, кукурузы, садавіны, гародніны й вінаграду дый для пашырэньня гандлю гэтымі прадуктамі», апублікаваная у савецкай прэсе 27. 1. 1960 г, .

Як ня дзіўна, кукуруза культываваная да гэтага часу у СССР, як кармовая культура для жывёлы, павінна цяпер, побач з бульбай, адыграць важную ролю ў палепшаньні выжыўленьня савецкага жыхарства, што й паказвае на войстры недахоп хлеба.

Ня менш паказальным для стану савецкае сельскае гаспадаркі й забясьпечаньня жыхарства прадуктамі харчаваньня зьяўляецца патрабаваньне савецкага кіраўніцтва «зарганізаваць у шырокіх маштабах збор і нарыхтоўку дзікарастучых ягадаў, садавіны, ды грыбоў сіламі калгасаў і сельскага жыхарства» (тамсама).

Пасьля даволі няпрыемных і, відавочна, непрадугледжаных падзеяў на сьнежаньскім пленуме, палажэньне Хрушчова ў ЦК і ў кіраўнічым пласьце СССР сяньня крыху стабілізавалася. На сэсіі Вярхоўнага Савету СССР (14-15 студзеня сёлета) усе, што выступалі, падчыркваілі ягоныя выдатныя заслугі ў розных галінах савецкага жыцьця.

Аднак нельга не зрабіць выvаду аб тым, што цяпер у ЦК існуе ведамая падвойнасьць у дачыненьні да Хрушчова, ягонага паложаньня ў савецкім кіраўніцтве й ягонай палітыкі.

Навет былыя «сталіністыя», што не падзяляюць шматлікіх кірункаў і зваротаў хрушчоўскай палітыкі, ня могуць ня лічыць, што для далейшага ўмацаваньня й разьвіцьця камуністычнага рэжыму й для спыненьня тэндэнцыяў духовага распрыгоненьня, якія пашырыліся й узмоцніліся ў розных слаёх савецкага грамадзтва, у савецкім кіраўніцтве неабходнае абсалютнае адзінаўладзтва. Дзеля гэтага, стараючыся абмежаваць магчымасьць экспэрымэнтаваньня Хрушчова, часта з прычынаў прагматычных, што часта адыходзяць ад марксістоўскіх тэорыяў, бальшыня ЦК ня можа не падтрымоўваць ягоны аўтарытэт унутры й вонкі краіны, як адзінага лідэра партыі й ураду.

Аднак-жа спроба беспасярэднім прэпараваньнем лічбаў з мэтай апраўдаць хрушчоўскую палітыку асваення цаліны ды напады сяброў ЦК на сельскагаспадарчую палітыку Хрушчова на сьнежаньскім пленуме, а таксама хрушчоўскі нечаканы трык зь перакідкай собскае віны на Бяляева, што стаўся ахвярай хрушчоўскай-жа палітыкі, дый паніжэньне Кірічэнкі, — усе гэтыя факты зусім выразна паказваюць на йснуючыя нутраныя супярэчнасьці ў ЦК КПСС.

# Сьцеражы нас, Божа, ад „прыяцеляў", — ад ворагаў абаронімся самі

Між Беларусамі й Украінцамі, якіх зьвязаў аднолькавы лёс і супольнае змаганьне, яшчэ з часоў нацыянальнага адраджэньня абодвых народаў завязалася шчырая дружба й узаемнае супрацоўніцтва. Гэтыя прыязныя ўзаемадачыненьні, хаця й бывалі неаднаразова выстаўляныя на пробу, ніколі, аднак, ня слаблі й пазьней, што прыносіла толькі карысьць для абодвых народаў. Калі-ж і ўзьнікалі між Беларусамі й Украінцамі розныя непаразуменьні й разыходжаньні, дык яны, пры добрай волі абодвых бакоў, заўсёды былі ліквідаваныя.

Гэтак бывала ў розныя пэрыяды нашага нацыянальна-вызвольнага змаганьня на нашых бацькаўшчынах, гэтак ёсьць і на эміграцыі, дзе Беларусы й Украінцы ідуць супольным фронтам у змаганьні за свае нацыянальныя ідэялы.

Аднак у гэтай сугучнай гармоніі ад некаторага часу пачаў з украінскага боку скрыпець і няпрыемна дысананс. Маем на думцы ворган Украінскай Рэвалюцыйна-Дэмакратычнай Партыі «Українські Вісті», якія час да часу аказваюць нам мядзьведжую ўслугу, ахвотна ахвяроўваючы свае балоны для шкодных нам выступленьняў розных беларускіх палітычных авантурыстых, для якіх балоны беларускае прэсы недаступныя.

Гэтак каля дзесяцёх год таму назад усе беларускія нацыянальныя сілы былі змушаныя весьці станоўчае змаганьне з прарасейскай дывэрсыяй, якая, пад кіраўніцтвам палітычнага апартуністага Р. Астроўскага, намагалася разьбіць беларускія нацыянальныя рады і ўвесь беларускі нацыянальны рух на эміграцыі ськіваваць у расейскае рэчышча. Арганізацыі й прэсавыя ворганы нерасейскіх эміграцыяў, у тым ліку навет і польскія, поўнасьцяй салідарызаваліся з намі ў змаганьні з гэтым шкодным зьявішчам у беларускім палітычным жыцьці, адны толькі «Українські Вісті» аказалі выдатную дапамогу пазбаўленым у той час собскага воргану беларускім дывэрсантам. Дзеля таго, што гэтыя апошнія не маглі тады атрымаць ад IPO абавязваючай эміграцкую прэсу ліцэнцыі для выдаваньня сваёй газэты, «Українські Вісті» пачалі выдаваць для іх і, праўдападобна фінансаваць, як свой дадатак, газэтку «Беларускае Слова».

Праўда, рэдактары «Украінскіх Вістей» пазьней апраўдваліся тым, што яны не арыентаваліся ў беларускіх нутраных справах, забываючыся аб тым, што салідныя прэсавыя ворганы аб тых рэчах, у якіх яны не арыентуюцца зусім ня пішуць.

У 1955 годзе мюнхэнскае Беларускае Выдавецтва «Бацькаўшчына», пры ўкладзе вялізарных высілкаў і коштаў, прыгатавала рэпрэзэнтацыйнае выданьне твораў найвялікшага нашага нацыянальнага паэты Янкі Купалы п. н. «Спадчына» й заказала для гэтага выданьня ў Я. Ліманоўскага ўводны артыкул аб жыцьці й творчасьці Купалы. Але аказалася, што гэты артыкул быў прымітыўны з гледзішча навуковага й моцна некарысны з гледзішча нацыянальнага, і дзеля гэтага быў адкінуты. Тады надрукавалі яго «Украінскі Вісті» з пратэкцыянальнай рэдакцыйнай заўвагай у такім прыблізна сэньсе, што вось друкуецца выдатная навуковая праца выдатнага беларускага навукоўца, якая, бачыце, Выдавецтвам «Бацькаўшчына» была адкінутая.

Зьмяшчэньне-ж апошнім часам «Украінськімі Вістямі» (№ 6 за 7-га лютага 1960 г.) артыкулу К. Мерляка «Дык у чым справа», перад гэтым таксама адкінутага «Бацькаўшчынай», як шкоднага, дастаткова паказвае, што распачатую дзесяць год раней дывэрсыйную акцыю супраць Беларусаў «Українські Вісті» сыстэматычна праводзяць і далей. Праяўленьне такой «апекі» да ўсяго элемэнту, які не знаходзіць месца ў беларускай прэсе, само па сабе зьяўляецца ўжо ўмешваньнем у беларускія нутраныя справы, нясугучным з тымі элемэнтарнымі вымогамі этыкі й маралі, якіх вымагаюць прыязныя ўзаемадачыненьні між Беларусамі й Украінцамі. Ніводная ўкраінская група ня можа даць прыкладу, каб Беларусы, маскуючыся такой «апекай», праводзілі сярод Украінцаў падобную дывэрсыю.

У нацыянальна-палітычным жыцьці ўсіх эмігрантаў, у тым ліку й беларускай эміграцыі, ня ўсё і не заўсёды бывае ў парадку. Асноўнай прычынай гэтага цяжкія й ненармальныя ўмовы, у якіх давялося нам весьці на чужыне нашую нацыянальна-палітычную дзейнасьць. Але гэта чыста нутраныя справы, зь якімі спраўляемся самі безь няпрошанай помачы «Українськіх Вістей» і наводзім у сябе парадак.

Але хацелася-б, каб і ўкраінскае грамадзтва, дзеля захаваньня добрых украінска-беларускіх узаемадачыненьняў, навяло таксама парадак і ў «Украінскіх Вістях».

### «ПОЛЬШЧА Ў БРЫТАНСКІМ ПАРЛЯМАНЦЕ»

Польскі інстытут імя Юзэфа Пілсудзкага ў Амэрыцы выдаў два тамы дакумэнтаў пад загалоўкам **«Польшча ў Брытанскім Парляманце**, 1939—1945. Дакумантальны матар'ял да польскае справы ў часе Другое сусьветнае вайны».

Дзеля таго, што гісторыя заходніх земляў Беларусі зьвязаная часткова зь гісторыяй Польшчы, гэтае выданьне дакумэнтаў мае частковае дачыненьне й да нас. Абодва тамы маюць індэксы, што аблягчае карыстаньне выданьнем. Калі-б хто-небудзь, аднак, захацеў толькі паводля індэксу вылавіць матар'ял, што датычыцца да беларускае гісторыі, дык шмат было-б прапушчана. У індэксе першага тому, апрача назоваў паасобных местаў, як Беласток ці Вільня, падаецца таксама матар'ял і пад назовам «Беларусь» («Ўайт-Раша»). У індэксе другога тому «Ўайт-Раша» ўжо няма, хоць у тэксьце некаторых дакумэнтаў Беларусь спамінаецца. Пра гэта трэба ведаць, карыстаючыся выданьнем у пошуках дакумэнтаў да беларускае гісторыі.

**яз**

Уладзімер Глыбінны

# Добры дзень, акіян!

Улетку, як толькі сонца зайграе над галавой, неадольная таемная сіла загадна пацягне яго зноў выпрабоўваць ужо канечна блізкае й абавязкова збытоўнае ў гэтым годзе шчасьце; не здарма-ж ён трызьніў ім у зімовыя ночы, яно вабіла яго ў трывожна-цяжкіх, але салодкіх начных бачаньнях праз увесь год. Добрай-жа ўдачы табе, чалавеча! Шчасьлівы той, каго наведваюць гэтыя сны, хто не пазбыўся сьветлых уяваў і мае змогу адарвацца хоць на кароткі час ад штодзённае скрухі, каб пажыць у сьвеце паэзіі, разам з прыродаю, палячыць сінай адвечнай прыгожасьцяй свае душэўныя раны.

Налюбаваўшыся й надзівіўшыся акіянскаю прастораю з Монтацкіх скалаў, зірнуўшы апошні раз на высачэзны маяк, што, як зорка на варце, далёка азірае свае валоданьні й служыць арыентырам для далёкіх параплаваў, сямейка падарожных пачала думаць аб начлезе. За грошы зрабіць гэта было ня цяжка. Да паслугаў розныя гасьцініцы і гасьцінныя дамы.

Найбольш уразьлівае й незабыўнае спатканьне з цудаволатам адбылося назаўтра ўраньні, калі пасьля сьнеданьня за кароткі час машына вынесла трох Кандратовічаў на Монтак Біч. Тут на колькі міляў расьцягнулася даўгая палоса нізкога пясчанага берагу, аб які нясьціхана стукочаць разьюшаныя хвалі адчыненага й неабдымна-шырокага, як вокам сягнуць, іскрыста-бліскучага й асьляпляльна пералівістага пад ліпеньскім сонцам акіяну. Калі Міхась, Ірына й Зося спыніліся яшчэ наводдалі, акіян гнаў на іх гэтулькі ветру, што ім на момант, у першую часіну, пасьля толькі што сьпякотнае дарогі, зрабілася зьнянацку холадна. Проста ў твар біла халодным, прасякнутым колкаю соляй і мірыядамі драбнюткіх, нібы пыл, нябачных вокам, але адчуваных на салянаватых губах, кропелькаў вільгаці. Моцны вецер зьбіваў валасы, ягоныя подыхі разьдзьмухвалі й прыбівалі да цела вопратку. Зося навет ад нечаканасьці прыгнулася, нібыта асьцерагалася, каб не зваліцца. Усе ахвотна падставілі твары вольнаму павеву й глыбака ўбіралі поўнымі грудзьмі дзівосныя дары нарэшце пабачанага, з трох бакоў шырака адчыненага для агледзінаў, . акіяну.

Першай уніз з дарогі пабегла Ірына. За ёю кінулася стрымгалоў і Зося. Нябачная зьверху, прыхаваная высокай травою, сьцежка на кароткі час схавала ад Міхасёвага вока абедзьвюх падарожніцаў. За момант яны апынуліся на разложыстым беразе каля вады. Вохкі брыз ірваў валасы, калашмаціў сукенкі, прыгінаў да долу іхнія постаці. Зося ад радасьці забегала ўздоўж, затым борзда ськінула чаравікі. На мокрым пяску адна за аднэю ногі пакідалі адбітак сьлядоў. Калі Міхась за колькі часінаў рвануўся туды-ж без кашулі, у водных трусох, Ірына здалёку нарабіла на яго крыку, каб нешта апрануў, бо можа захаладзіцца. Не зьвяртаючы ўвагі на папярэджаньне, ён як быў адным махам зьбег да долу й апынуўся на тым-жа залацістым пяску. У першы момант і яго абдало халодным подыхам акіяну, па целу прабеглі дрыжыкі.

Акіян гнаў на бераг вал за валам і пеніўся на іхніх грэбнях. Не пасьпявала адкаціцца адна чарада хваляў, як усьлед яе таўкла ў сьпіну іншая. Разам зь пенаю яны пакідалі на пяску круглякі, багавіньне, драбнюткіх малюскаў і рухавых рачкаў. Часамі сярод вынесенае на бераг марское твані пасьпешліва бег назад да вады вілаваты крабік. Ён спрытна перабіраў дол сваімі клюшнямі й безь ніякае цяжкасьці пераадольваў навалы рухлівага ад набягаючых хваляў пяску. Малесенькія, з войстрымі дзюбкамі, шэравата-бялявыя птушачкі спрытна пасьпявалі бегчы ўсьлед за адыходнай хваляй і таксама пасьпешліва ўцякаць ад вады, калі новы наплыў залівала займаную імі прастору. Удалае ходаньне з чарадою хваляў кажны раз прыносіла ім у дзюбкі новую спажыву ў выглядзе малюпасенькіх, ім адным ведамых на смак, донных істотаў. Старанная, з прыродным дазнаньнем, права забясьпечвала ім спажыву й дабрабыт. Побач рухлівых струменяў неспакойнае стыхіі яны чуліся, як дома. Калі-ж Зося, наглядзіўшыся іхняга спрыту, сама адважылася бегчы за адыходам хвалі, дык не пасьпела яна затым адбегчы, як халодная хваля, нібыта хлытом, секанула салёную пенаю па лытках. Відаць, ні людзям спаборнічаваць зь дзівагодным умельствам тубыльцаў гэтых прастораў. Маленькая птушачка тут перавысіла гіганта-чалавека. Мы-ж можам толькі выказваць сваё зьдзіўленьне з чараўнічай магутнасьці акіяну й захапленьне злагоджанасьцяй жыцьця ягоных насельнікаў.

Ад віруючай рухлівасьці марское прасторы над берагам акіяну суцэльнай сьцяной ляжаў малочны туман, здавалася гусьцейшы і выразьнейшы далёка па абодвых баках уздоўж берагавое дугі. Калі зірнуць направа ці налева, на адлегласьці колькіх міляў, у паветры вісела шэрая заслона воднае пары, якая клубілася, нібыта той гэйзэр, і павольна калыхалася ў разьлеглай бясконцасьці.

Раптам зыркія праменьні сонца прабілі хмарны засьціл і шчодра залілі яркім сьвятлом усю прастору. Адразу ў паветры пацяплела, далягляд ува ўсе бакі пасьвятлеў і пашырыўся, туманная сьцяна па бакох адсунулася да нябачнае далі. Да самага небасьхілу, як можна было ахапіць зрокам, калыхаўся аксамітны таемна-сіні гіганцкі дыван. Акіян ракатаў і грымеў разьбітымі хвалямі, накочваючы агромністыя водныя глыбы на жаўтавата-руды пясок.

Пад шчодрымі праменьнямі ўвесь бераг зіхацеў і пераліваўся зыркімі колерамі вясёлкі. Хвалі ўкладвалі сыпучы пясок роўнымі, без найменшай шурпатасьці, касякамі. Яны тварылі шырака-адлеглыя пясочныя палотнішчы, на якіх гэтак і хацелася нешта крэмзаць. Малая Зоська адразу пачала трэсачкай рысаваць вялізарнае сэрца. У яго сярэдзіне яна надпісывала дарагія ёй імёны сваіх бацькоў і сяброўак па школе. Міхась пажартаваў, што такога памеру сэрца ня мае ніводнае жывая істота на зямлі. Зося заспакоілася толькі тады, калі татка зрабіў дапушчэньне, што хіба адно ў кіта можа быць такое вялікае сэрца. Кіт гэтым разам зусім імпанаваў Зосінай фантазіі на гэтым акіянскім беразе. Пачала пытацца, ці ёсьць кіт у гэтым месцы й ці можна яго тут бачыць. Прыйшлося задаволіць дзіцячую цікавасьць і пагадзіцца з дапушчэньнем, што й тут можа выпадкам заплыць адзінотны,

# У 40-ыя ўгодкі сьмерці Алеся Гаруна

Шмат забытых магілаў на ніве беларускае літаратуры і нацыянальнага адраджэньня, — забытых і забароненых. На аднэй з гэткіх магілаў павінен быўбы стаяць гранітны помнік з залатым надпісам: «Алесь Гарун — пісьменьнік-рэвалюцыянэр».

Беларускі савецкі літаратуравед Міхась Ларчанка больш за тры гады таму паспрабаваў быў палажыць невялікую красачку на заглушаную нябытам літаратурную магілу Алеся Гаруна. У газэце «Літаратура і Мастацтва» ад 17-га лістапада 1956 году Міхась Ларчанка пісаў:

«Карусь Каганец, Ядвігін Ш. і Алесь Гарун былі таленавітыя майстры слова. Яны ў сваіх творах праўдзіва адлюстроўвалі пэўныя бакі тагачаснага жыцьця працоўных мас Беларусі, выказалі іхныя жаданьні, іх імкненьні да свабоды, да лепшай будучыні».

Каб апраўдаць сваю згадку пра няведамага, бадай, у савецкай Беларусі, асабліва моладзі, Алеся Гаруна, ды каб застрахавацца самому, Ларчанка наляпіў на Гаруна налепку «буржуазнага нацыяналістага», але гэта яго не ўратавала. На савецкага літаратураведа цыкнулі па партыйнай лініі за наведаньне забароненае магілы, і над Алесем Гаруном ізноў павісла партыйнае табу.

Тымчасам Алесь Гарун, які памёр сорак год таму, — гэта выдатная постаць у нашай літаратуры дваццатага стагодзьдзя. Беларускі літаратурны крытык і гісторык літаратуры Антон Адамовіч у сваёй кнізе пра беларускую літаратуру ставіць Алеся Гаруна побач гэткіх волатаў паэтычнага слова, як Купала, Колас і Багдановіч. І запраўды вершы Алеся Гаруна глыбака пранікнёныя пачуцьцём патрыятызму, адданасьці нацыянальнай справе і палкае рэвалюцыйнасьці (паэта належаў да партыі сацыялістых-рэвалюцыянэраў). Ён вельмі добра разумеў вызначальную ролю роднае мовы ў нацыянальным адраджэньні, душой вышаўшы і пераняўшы Багушэвіча кліч-перасьцярогу: «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі». Матыў гэты паэта часта закранаў у сваіх творах. Пяру ягонаму належаць гэткія натхнёныя радкі.

Гэй, ты маці родна мова,
Гэй, ты звон вялікі, слова —
Звон магучы,
Звон біскучы,
З срэбра літы,
З злота зьбіты,
Загрымі ты,
Загрымі!




Так-жа, як і ягоны вялікі папярэднік Францішак Багушэвіч, Алесь Гарун ведаў, што царская расейская гістарыяграфія груба фальсыфікуе мінуўшчыну нашага народу, які вольна гаспадарыў у сваёй колішняй дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім. У сваіх творах Алесь Гарун часта зварачаўся думкамі да гэнае мінуўшчыны:

У старыну Беларус непадданы
Гаспадарыў, быў сам над сабою
І далёка у сьвеце быў знаны
За літоўскай і ляскай зямлёю.

Супастаўляючы зь цяперішчынай гістарычнае мінулае, Гарун пісаў пра свой край:

Меў вялікія кляйноды,
Быў і моцны і багаты,
Задзіўляліся народы...
А дазнаўся горкай страты.

У пэрыяд «горкай страты» давялося жыць паэту, у пэрыяд «горкай страты» забароненая і ўся ягоная літаратурная спадчына. Бо якраз да тых, хто накінуў забарону на ягоную творчасьць, датычаць няўміручыя словы паэты, што за родны край пайшоў у турмы, ссылку й выгнаньне:

Калі для нас жадаеце багацтва,
Нашто зь бяздольнага зьдзіраеце
апратку?
Нашто-ж тады вы плодзіце жабрацтва,
Дамы пустошыце бязь ліку, без астатку?

«Мы волю вам...» Пракляцьце вам із ёю!
Чаму ад волі вашай мы стагнаць
павінны?

Яна — ланцуг над нашаю зямлёю,
Астрог на наш народ спакойны і
бязьвінны.

Ня воля гэта! Што нам ні цьвярдзеце,
Мы вольнымі былі за даўнымі часамі.
Ідзеце-ж проч! І з воляю ідзеце!
Да волі знанае хутчэй мы прыйдзем самі!

## САВЕЦКАЯ ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ

Частая хвальба бальшавікоў пра заможнасьць калгаснага сялянства, асабліва пра гэткія паказьнікі заможнасьці, як радыё й тэлевізары, спрастоўваецца крыху другой складовай часткай славутае ленінскае формулы «савецкая ўлада + **электрыфікацыя** = камунізм». Бо які толк з радыёвага апарату ці тэлевізара, калі **«Электрычнае сьвятло ... на дзьве гадзіны»**, як гэта стаіць у загалоўку ліста ў рэдакцыю газэты «Советская Белоруссия» (24. 1. 1960).

Пішуць працаўнікі нейкага «озрыбхоза» (возерная рыбная гаспадарка), гаспадарку якіх павінна забясьпечваць электраэнэргіяй Лукомльская ГЭС. Мінулага лета, жаляцца аўтары ліста, электрычнасьці ня было наагул. Пасьля лямпачкі пачалі загарацца на пару гадзін праз дзень-два а часамі й праз тыдзень. Тлумачылі гэта перагарэлым генэратарам. Абяцалі падправіць. Аднак, дасюль нічога не зьмянілася. Стаяць у хатах нямыя радыёвыя апараты й сьляпыя тэлевізары. «У нашай гаспадарцы пачынае пускаць карані тэхніка, насосы, лёнадрабілкі, вэнтылятары й іншыя мэханізмы. Але ўсё гэта бязьдзейнічае, бо няма электраэнэргіі».

# Куды дзеліся?

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

яны траплялі ў парахвіі, дзе іх заразжа прыпісвалі настала.

Далейшае замацаваньне пры парахвіі залежала ад мудрасьці пастыра, каб нова-пасомыя не адбіліся ад ягонай паствы. Трэ было як найбарджджэй іх асвоіць, прыручыць, неяк прывязаць: ненарокам накінуць на шыю ланцужок забавязаньня — пабудаваць новыя ці пашырыць старыя ясьлі (касьцёл, царкву). Як толькі гэта ўдавалася, далей зь імі не цацкаліся й ня лічыліся. Стрыглі залатое руно, як толькі спраўлялася адрастаць. Ведалі, што чалавек сам прывязваецца й радніцца з тым, што сам збудуе. Тым мілейшым, раднейшым справа робіцца, чым цяжэй давалася, даражэй каштавала. Ведалі, чым найлягчэй прывязаць Беларуса: калі не зямлёй, дык будоўляй. Асноўнае — зарганізаваць камітэт пабудовы, далей самі вернікі навыперадкі будаўніцтва павядуць.

Колькі-ж гэтым спосабам за кошт нашага земляка Беларуса пабудавана цэркваў, касьцёлаў, парахвіяльных дамоў усякім «добрым» апякуном? Ня была-б такая крыўда, каб гэтыя заслугі хоць у маленечкай частцы ім прызналі, ушанавалі, неяк адзначылі. На працягу ўсяе гісторыі ад пачатку эміграцыі ня было выпадку, каб знайшоўся хоць адзін добры пастыр, які-б аказаў сэрца сваёй пасьцьве беларускага паходжаньня, які-б узьняўся панад іншых пастыраў і не патрактаваў Беларусаў як гной для свае нацыі. Не знайшлося такога, каб малую цэрквачку, хоць-бы каплічку, збудаваную Беларусамі, дазволіў назваць беларускай, хоць-бы адну на ўсю Амэрыку. Дзе там, навет гэтага шкода было. Усёй узнагародай за пакору, ахвярнасьць было тое, што атрымвалі страву духовую. На шчасьце, атрымвалі яе толькі ў сьвяточныя дні, а усе будні мусілі собскай жыць, таму беларускую мову праз пакаленьні захавалі дагэтуль. Чужынцы будавалі помнікі апрычонасьці сваім народам за кошт Беларусаў, за што ім плацілі пагардай, высьмейваньнем усяго, што беларускае, каб саромеліся, выракаліся, забыліся свае нацыянальнае апрычонасьці. А тых, што пры сваім упорысьцей трымаліся, абзывалі: мужык, хлоп, хам. Пад ціскам «узгадавальных» мэтадаў, бескампраміснага шавінізму нацыянальная сьведамасьць нашых землякоў ня ўстояла. Із скарбу роднае беларускае мовы не даліся аднак да дна абчысьціць. Вось чаму па сяньняшні час скрозь чуваць беларускую мову.

Ня цяжка ўявіць, якою магутнасьцяй была-б цяпер беларуская нацыя ў Амэрыцы, каб поплеч із захаваньнем мовы захавала нацыянальную сьведамасьць.

Увесь учын, унесены чужынцам, быў-бы собскім нацыянальным капіталам. Каб зарыентавацца ў вялізарнасьці гэтага ўкладу, прывядзем жывы прыклад, на што Беларусы здольныя, калі пачнуць будаваць. За няпоўныя 10 год колькі тысячаў новых паваенных эмігрантаў, таксама бяз мовы і грошай, адно ўзброеных нацыянальным духам, ужыцьцёвілі тое, чаго нашыя землякі на працягу пакаленьняў не паважыліся навет закрануць.

Абвесьцілі Амэрыцы й усяму сьвету аб існаваньні Беларусі й Беларускага Народу. Давялі апрычонасьць Беларускага Народу, беларускай праблемы, беларускага права на самастойнае нацыянальнае жыцьцё. Здабылі прызнаньне роўнасьці й замацавалі за сабой месца абавязкавага, пачэснага, незаменнага сябры ўва ўсіх міжнацыянальных выступленьнях Амэрыкі. Разбудавалі густую сетку нацыянальна-грамадзка-культурных арганізацыяў. Не раней аднак дазволілі сабе на раскошу заняцца нутранымі патрэбамі, пакуль не загрунтавалі свайго становішча навонкі, як апрычонае нацыі. Першае месца з усіх лякальных патрэбаў кажнага асяродзьдзя заняла справа прыдбаньня собскай парахвіяльнай царквы. Паколькі першы пэрыяд дзейнасьці можна назваць заваёўваньнем прызнаньня правоў да нацыянальнае роўнасьці ў сям'і народаў і разбудовай нацыянальна-грамадзкіх арганізацыяў, пагэтулькі другі, цяпер пачаты — выглядае на пэрыяд будаўніцтва цэркваў. Некаторыя асяродкі ўжо прыдбалі, рэшта — хоча, будуе й будзе мець сваю собскую царкву! Дзіву годна зь якім энтузіязмам, размахам, запалам шчодрай ахвярнасьці, не аб'яўленай дагэтуль, усе й скрозь кінуліся будаваць. Даслоўна ўсе, навет тыя, што да іншых галінаў нацыянальнай працы абыякавыя былі, а ў будове царквы прыкладам для іншых ахвярнасьцяй сьвецяць.

Адсюль відаць, як усе Беларусы (старыя ці новыя) з сэрцам цэрквы будуюць; сяньня, у мінуўшчыне й заўсёды, дзе не апынуліся. Колькі-ж тады, пры сваёй лічнасьці, нашыя землякі мусілі набудаваць?! Адно вынікі выйшлі розныя.

Новая эміграцыя — будуе для сябе й на славу свае Бацькаўшчыны, а старая?

Новая — пабудзіла дзьве справы: нацыянальную й поўнасьцяй рэлігійную, старая — рэлігійную, дый тую часткава толькі ўладзіла.

Новая — жыве поўным жыцьцём здаровага народу: расьце, дужэе, разьвіваецца, а галоўна — сьмела глядзіць у будучыню.

Для старой-жа будучыня — нябыт.

Шкада іх, шкада, але гэтае долі маглі-б унікнуць яшчэ, калі-б сёлета пры цэнзусе (перапісе) самі захацелі пакінуць чужынцаў. А так, дзе іх там хто пазнаходзіць?

...ак



адбіты ад чарады, кіт. Зосіны вочы гэтак і засьвяціліся аганькамі жывое ўявы кіта на гэтым беразе.

Выкінуты хвалямі на бераг шкілет нейкае вялікае рыбы з поўнай поўсьцяй зубоў навёў усіх на думкі пра сумны канец усяго жывога на зямлі і ў вадзе. Жыла некалі яна, змагалася за сваё існаваньне, шукала сабе задаваленьня, а па часе сталася спажывай для іншых. Крабы й вугры выелі ейныя бакі, акіян доўга гойдаў на сваім узлоньні рэшткі ды цяпер выкінуў іх на бераг, каб пад сонцам дапятрэла тое, што яшчэ адно й нагадвала аб калісьці жывой рыбіне. Але як яна дбала да апошняга дыху пра жыцьцё, гэтак і кажная жывая істота мусіць ходацца аб жыцьцёвых інтарэсах. Пакуль жыве чалавек, мусіць поўнай прыгаршняй чэрпаць сілы з жыцьцядайнае прыроды, з шырокага неабдымнага акіяну, імя якога — жыцьцё.

«Жыві і вечнасьці шукай!» — сказаў калісьці наш паэта. І кажны з прысутных асобна адчуў і пасвойму зразумеў гэта тут, на гэтым беразе, калі ўглядаўся ў бясконцую шэрую даль, што гублялася ў далёкай дымнай смузе. Так, жыцьцёвыя хвалі, як і гэтыя акіянскія, ніколі ня спыняцца ў сваім вечным бегу наперад, да невядомага й вышэй вызначанага. Чалавек мусіць прайсьці цалкам наканаваны яму шлях. І ў гэтай наканаванасьці імкненьняў да жыцьцёвае паўніны і ўсеабдымнасьці магчыма й хаваецца сэнс існаваньня чалавека, мажліва ў ім і тоіцца мэтазгоднасьць зьмены пакаленьняў, ад сівых продкаў да ўсіх невядомых нашчадкаў. Пакаленьне за пакаленьнем, як тыя акіянскія хвалі, пасылаецца на зямлю, каб дасканаліць, апрацоўваць і культываваць яе, а перад сваім адыходам пакінуць спадкаемцам сьляды свае культуры й творчае чыннасьці. Як хваля дапамагае плыні другой хвалі, пакіданая спадчына робіць жыцьцё кажнага новага пакаленьня больш пасьпяховым, мэтазгодным, асэнсаваным і плённым для прышлых намесьнікаў. У гэтай зьмене хаваецца й прыгажосьць вечнага заступленьня старога й аджытага новым, маладым і жыцьцяздольным. Жыцьцё на зямлі вечнае й наяўміручае праз заўсёдніх заступнікаў. Яно будзе вечна красаваць, як вечна будзе ракатаць гэтае мора, як заўсёды, усе вякі, будзе з той-жа сілаю біць аб берагі той-жа салёнаю пенаю магутны акіян.

Міхась доўга яшчэ люляў гэтыя думкі, калі босая Зося, радасная й ўзрушаная гаворкаю акіяну, звабленая чарамі празрыстай, як крышталь, прасторы, гойсала на беразе, бегала наўздагон хвалям, а зморaная прымалася пасьля зноў выкрэсьліваць на пяску фігуры людзей, адной ёй вядомыя маладыя профілі. Пасьля заўважыла нешта ў вадыходнай вадзе, бегла ўсьлед за высокім валам. ужо не баючыся быць злоўленай і высьцебанай дубцамі сустрэчнай хвалі. Уся ейная фігурка выдавалася паружавелай і пасьвяжэлай у гэтым прыемным наплыве цяпла з прахалодаю. Яна бяздумна заглядалася ўдаль, нібыта чакаючы адтуль радаснае весткі й новае пацехі ў ейным бязхмарным жыцьці.

Ірына-ж павольна ішла ўздоўж берагу па мяккім, прыемна казытаючым босыя ногі, пяску. Ейная душа цягнулася ў празрыстую даль, сьпяваючы гімн зямлі, вадзе й сонцу. Яна ступала ў сыпучае золата й напачатку ціха напявала сабе. Нарэшце ўздымны настрой вырваўся пяяньнем на ўсю сілу. Вецер разносіў рэха ейнага пераліўістага голасу, адылі недалёкім водгульлем ён тануў і зьнікаў у акіянскім гуле. А калі яна вярнулася, ейная рука міжвольна пацягнулася да макраватага жоўтага долу й пачала хуценька выкрэсьліваць вялізарныя, з чалавека, літары. Міхась прыемна ўсьміхнуўся і моўчкі выказаў сваю згоду з жонкавай думкай. Фігурныя літары на колькі мэтраў уздоўж берагу выразна іскрыліся на агністым пяску й пасылалі ў неба словы шчырага, ад усяе душы, удзячнага прывітаньня: ДОБРЫ ДЗЕНЬ, АКІЯН!

Масьцік, Лёнг Айлэнд, 7—10 ліпеня 1958 г.

# Смерць Гэнрыка Шлегеля

Гэнрык Шлегель, радавы нямецкай мэханізаванай пяхотнай дывізіі, трапіў у палон улетку 1944 году пад Барысавам. Разгубіўшы ў бясконцых баёх і адступленьнях бадай-што ўсю цяжкую зброю і аўтамашыны, Гэнрыкаў аддзел ужо ад Віцебску валачыўся пехатою бакавымі дарогамі і пабочынамі. Кажны напад партызанаў каштаваў колькіх пакінутых у жытнёвых палёх забітых. Ранены ў нагу ды абсыпаны зямлёю выбухам бомбы, Гэнрык ляжаў бяз памяці ў няглыбокім рове каля вытаптанае гліністае дарогі. У хвіліны, калі да яго прыходзіла сьведамасьць, ён пачынаў думаць пра сваю далёкую Баварыю, закінутае ў горах паселішча, дзе ён пакінуў колькі гадоў таму назад жонку, трое дзяцей, мураваны дзвухпавярховы дом з хлявамі ўнізе ды восем кароў, якія на адыход гаспадара, нібыта згаварыўшыся, гучна раўлі яму адыходную. Перад вачыма Гэнрыка паўставалі абразы заплаканае жонкі, малое дачушкі Марты, што памкнулася была бегчы за бацькам, калі той ужо выходзіў за весьніцы, ды разьвітальныя невясёлыя твары дзесяцігадовага Эрыка і вельмі здатнага да работы чатырнаццацігадовага Фрыдрыха, які ківаў бацьку на разьвітаньне, не адрываючыся ад працы пры каровах. У нейкі момант раненаму здалося, што ягоныя дзеці каля яго, тут, разам прыселі адпачыць на момант у якойсьці вялікай дарозе. Ледзьве расчынянымі вачмі ён мог бачыць, як абочынай дарогі ідуць якіясьці людзі, у рознамаснай вопратцы, з аўтаматамі або вінтоўкамі за плячыма ці ў руках наперавес. І яму здалося, што ён ідзе туды-ж, куды кіруюцца гэтыя незнаёмцы.

— Але-ж чаму гэта я тут затрымаўся, ня рухаюся і нібыта прыкаваны да зямлі? — прамовіў у думках ён да сябе і памкнуўся быў устаць. Але цела зусім ня слухалася, зрабілася непераадольна цяжкім і нібыта прырасло да зямлі. Гэнрых хацеў крануць нагою, але раптоўна адчуты войстры боль, нібы лязом, працяў усю ніжэйшую частку цела, а праз момант перадаўся і вышэй.

— Дзеткі мае, дзеткі, няўжо мне тут канец прыйшоў? — запытаўся ён у голас нібыта зь ім цяпер і запраўды былі ягоныя Фрыдрых і Эрых.

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

## У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва

У Нью-Ёрку 13 лютага адбылося чарoднае навуковае паседжаньне сяброў БІНіМ-у, прысьвечанае абмеркаваньню пляну працы на будучыню.

Галоўны даклад на тэму надыходзячых вялікіх беларускіх юбілеяў меў др. В. Тумаш. Дакладчык адцеміў, што ў нас дасюль не прысьвячалася шырэйшае ўвагі юбілеям. Тымчасам рыхтавацца да іх трэба загадзя, галоўна, распрацоўваньнем навуковых пытаньняў (і аднáчасна публікаваньнем інфармацыйнага матар'ялу), зьвязаных зь юбілеямі.

Дакладчык зьвярнуў увагу на бліжэйшыя юбілеі, да ўшанаваньня якіх рыхтуецца ўжо шмат хто зь сяброў БІНіМ-у.

**У 1964 годзе** — прыпадае 100-годзьдзе сьмерці рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага.

**У 1963 годзе** — 100-годзьдзе антырасейскага паўстаньня на Беларусі пад кіравецтвам К. Каліноўскага.

**У 1962 годзе** — 100-годзьдзе беларускае прэсы («Мужыцкая Праўда»).

**У 1961 годзе** — 800-годзьдзе крыжа сьв. Эўфрасіньні Полацкае, зробленага Лазарам Богшам; 300-годзьдзе антырасейскага паўстаньня ў Магілеве; 100-годзьдзе народзінаў і 30-годзьдзе сьмерці выдатнага беларускага філялёга Яўхіма Карскага; 75-годзьдзе народзінаў і 20-годзьдзе сьмерці пісьменьніка Зьмітрака Бядулі; 75-годзьдзе нарадзінаў кампазытара Міколы Равенскага; 40-годзьдзе заснаваньня Чыкагаўскага Камітэту Абароны Беларусі; 40-годзьдзе сьмерці паэты Андрэя Зязулі; 40-годзьдзе заснаваньня Таварыства Беларускае Школы (ТБШ) у Вільні; 40-годзьдзе заснаваньня беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту ў Менску; 40-годзьдзе Рыскага трактату; 40-годзьдзе літаратурнае дзейнасьці Натальлі Арсеньневай; 10-годзьдзе заснаваньня ў Нью-Ёрку Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (плянуецца склікаць навуковую канфэрэнцыю).

**У 1960 годзе** — 725-годзьдзе ад часу, калі Навагрaдак стаўся сталіцаю Вялікага Княства Літоўскага; 450-годзьдзе Грунвальдзкае бітвы; 125-годзьзе беларускае лацінікі; 150-годзьдзе сьмерці віцебскага мастацка Івана Хруцкага; 50-годзьдзе сьмерці этнаграфа М. Нікіфароўскага; 30-годзьдзе сьмерці Ўсевалада Ігнатоўскага; 50-годзьдзе тэатру Буйніцкага; 40-годзьдзе Слуцкага Паўстаньня; 40-годзьдзе сьмерці паэты Алеся Гаруна; (пастаноўлена перавыдаць ягоны зборнік твораў «Матчын Дар»); 40-годзьдзе заснаваньня Беларускага Студэнцкага Таварыства ў Вільні; 50-годзьдзе сьмерці пісьменьніка Сяргея Палуяна; 120-годзьдзе нарадзінаў і 60 сьмерці пісьменьніка Францішка Багушэвіча; 30-годзьдзе пачатку разгрому нацдэмаў.

Шмат сяброў БІНіМ-у ўжо працуюць над паасобнымі тэмамі, рыхтуючы іх для абмеркаваньня ў БІНіМ-е ды адзначэньня ў вольнай беларускай прэсе.

Др. Вітаўт Кіпель паінфармаваў сяброў паседжаньня, што ёсьць выдавец на надрукаваньне беларуска-ангельскага й ангельска-беларускага слоўніка. У сувязі з гэтым на паседжаньні было пастаноўлена стварыць слоўнікавую камісію, якая будзе кіраваць рыхтаваньне да выданьня слоўнікаў. У камісію ўвайшлі праф. Ант. Адамовіч, др. В. Тумаш і др. В. Кіпель. Пастаноўлена выдаць слоўнікі абыймом каля 50 тысячаў словаў.

Беларуска-Амэрыканскае Акадэміцкае Таварыства выказала вялікую ахвоту й гатовасьць узяць самы дзейны ўдзел у працы над рыхтаваньнем слоўнікаў.

На паседжаньні было пастаноўлена таксама перавесьці часапіс БІНіМ-у «Конадні» на гадавік ды праводзіць далей захады збору грошаў на выданьне чароднае кніжкі.

**Я. Запруднік**

## Ньюёркаўскія вечарыны

Трэба быць на эміграцыі, каб навет хаджэньнем на свае вечарыны — танцаваньнем, выпіваньнем ды закусваньнем — рабіць грамадзкую справу.

Вечарыны ў Нью-Йорку — гэта ўжо выпрабаваны й замацаваны спосаб папаўняньня касаў бадай усіх грамадзкіх арганізацыяў. Казаў той, прыемнае з карысным.

Пэрыяд «грамадзкіх» вечарынаў пачынаецца адразу пасьля калядных сьвятаў. Сёлета, прыкладам, 16 студзеня танцавалі на карысьць аграваньня царкоўнага будынку (ладзіла вечарыну царкоўная рада мясцовага прыходу БАПЦ); 30 студзеня выпівалі за здароўе выдавецкага фонду (ладзіла гал. упр. БАЗА); 13 лютага меліся закусваць на падтрыманьне Беларуска-Амэрыканскае Дапамогі (скасавалі, бо атрымвалася зачаста); 20 лютага спраўляюць запускі (прыспары, Божа, здароўя й грошыкаў жаноцкай арганізацыі!); 27 лютага будуць гуляць на змацаваньне моладзі й маладосьці (арганізатарам — мясцовы аддзел ЗБМА). А там ужо й пост пачнецца.

Ад кажнае, бадай, з гэтых вечарынаў сёе-тое перападае ня толькі арганізацыі, што ладзіць ігрышча, але памагаецца таксама сплачваць і свой грамадзкі будынак ды падахвочваецца свою-ж аркестру да пашырэньня й удасканальненьня рэпэртуару. Словам, як у таго краўца: за адным махам сем мухаў забіваецца.

Праўда, ньюёркаўскія старажылы крыху рашчаравана сьцьвярджаюць, што колішнія вечарыны пачатку 50-х гадоў былі люднейшыя й даходнейшыя. Зьява гэтая, зразумела, прыкраватая, хоць дзеля некаторых аб'ектыўных прычынаў нельга цяпер спадзявацца таго, што было дзесяць гадоў таму. Цяпер ёсьць іншыя плюсы, якіх тады ня было. Аднак, усё-ткі некаторым людцом варта было-б часьцей прыходзіць адсьвяжацца на свае вечарыны. Не абавязкава-ж танцаваць, каб апраўдаць гэныя пару даляраў, што плаціцца за ўступ. Хопіць сустрэцца із знаёмым, спомніць старыну, паглядзець на маладзейшых ды, коштам пары даляраў, самому адмаладзіцца-адшкрэбціся ад саладушнае заскарузласьці й абывацальшчыны.

**Я. Запруднік**

## Сьветчаньні пра Беларусь у амэрыканскім Кангрэсе

Газэта «Чыкагаўская Штадзённая Трыбуна» ад 1 лютага 1960 г. зьмясьціла артыкул Джозэфа Гарста пра рост прымусовае працы й генацыдную дэнацыяналізацыю ў Савецкім Саюзе. Весткі да свайго артыкулу аўтар узяў з матар'ялаў амэрыканскага кангрэсавага камітэту, што займаецца разглядам праяваў антыамэрыканскае дзейнасьці. У сувязі з падрыўной работай камуністычных элемэнтаў у Амэрыцы й аднáчасным наступам бальшавіцкае прапаганды па лініі г. зв. «мірнага суіснаваньня», кангрэсавы камітэт для разгляду антыамэрыканскае дзейнасьці сабраў пэўную колькасьць матар'ялаў да тэмы «Злачынствы Хрушчова». Частка гэтых матар'ялаў ужо апублікаваная.

Усе сьветчаньні аднaзгодна даводзяць, заяўляе кангрэсавы камітэт, што «сотні тысячаў мужчынаў, жанчынаў і дзяцей з балтыцкіх краёў, Украіны й Беларусі былі сілай пераселеныя ў Сібір і Туркестан».

«Гэта праўда, — піша «Чыкагаўская Штадзённая Трыбуна», — што ад часу, як Хрушчоў прыйшоў да ўлады, колькасьць лягераў, у якіх людзі пазбаўленыя свабоды й пад пагрозай пісталетаў змушаныя працаваць, значна ўзрасла, хоць цяпер завуць іх інакш, чымся канцэнтрацыйныя лягеры.

«Кастусь Мярляк і др. Вітаўт Тумаш, — піша далей газэта, — прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у Задзіночаных Штатах, заявілі, што пляны Хрушчова на Беларусі накіраваныя на вынішчэньне беларускага народу, які меў сваю незалежную рэспубліку перад тым, як быў паняволены бальшавіцкімі агрэсарамі ў 1919 годзе.

«Яны заявілі, што за Сталіна плян вынішчэньня выконваўся спосабам масавых расстрэлаў і высылак у канцлягеры, дзе людзі мерлі з холаду, голаду й цяжкасьцяў.

«Яны заявілі, што тая самая палітыка праводзіцца й за Хрушчова, але толькі іншымі мэтадамі. Цяпер людзей вывозяць не ў канцэнтрацыйныя лягеры на зьнішчэньне, але перасяляюць у Казахстан ды на сібірскія землі, дэнацыяналізуючы гэткім чынам ды вынасельніваючы Беларусь.

«Др. Тумаш заявіў, што апошнімі гадамі вывазы беларускага жыхарства ўзрасьлі да памераў яшчэ нябывалых у беларускай гісторыі. Колькасьць вывезеных вымяраецца сотнямі тысячаў.

«Сп. Антон Шукелайць расказаў, як камуністыя на Беларусі вынішчаюць рэлігію. Беларускі народ, сказаў ён, прыняў хрысьціянства бадай тысяча год таму. Аднак, перад пачаткам Другое сусьветнае вайны, з прычыны камуністычнага антырэлігійнага тэрору, на цэлай беларускай тэрыторыі пад бальшавікамі ня было аніводнае сьвятыні — праваслаўнае, каталіцкае, пратэстанцкае ці жыдоўскае. Мы павінны памятаць, што, калі Беларусь перад Першай сусьветнай вайной мела, прыблізна, 4500 цэркваў, каля 450 касьцёлаў і 700 сынагогаў, дык цяпер багаслужбы адбываюцца толькі ў колькіх праваслаўных, каталіцкіх, пратэстанцкіх і жыдоўскіх сьвятынях.

«Сп. Шукелайць заявіў, што рэлігійнае жыцьцё беларускага народу ў васноўным розьніцца вельмі мала ад сталінскае пары ды што канчальная мэта Хрушчова — поўнае зруйнаваньне веры».

**яз**

## Выданьне амэрыканскага Кангрэсу пра Беларусь

Амэрыканскае ўрадавае выдавецтва ў Вашынгтоне апублікавала шостую брашуру, што выходзяць пад агульным загалоўкам **«Злачынствы Хрушчова»**. Гэтыя выданьні — гэта вынік актыўнасьці Камітэту для Разгляду Антыамэрыканскае Дзейнасьці, што быў створаны ў Кангрэсе ЗША ў 1946 годзе. Брашура датаваная 19 сьнежанем 1959 г., абыймае 26 бачынак. На пачатку брашуры пададзенае мотто — цытата з прамовы Хрушчова на прыняцьці ў Індыйска-савецкім таварысьцьве ў Бамбэі 24 лістапада 1955 г.: «... Мы заяўляем тым, хто чакае на зьмену савецкае палітычнае праграмы: Чакайце на блакітны месяц! А вы ведаеце, калі гэта будзе».

У брашуры зьмешчаныя сьветчаньні двух прадстаўнікоў Туркестану й трох прадстаўнікоў Беларусі: К. Мерляка, д-ра В. Тумаша й А. Шукелайця.

У сьветчаньні сп-ра К. Мерляка даецца кароткі агляд гісторыі Беларусі, гаворыцца пра дэпартацыю жыхарства падсавецкае Беларусі й неагляднаю русыфікацыю, якою яшчэ з большай напорыстасьцяй, чымся за Сталіна, займаецца цяперашні бальшавіцкі рэжым.

Др. В. Тумаш даў Амэрыканскаму Кангрэсу паказаньні пра народагубную палітыку хрушчоўскага рэжыму, што нясе паводля зробленых д-рам В. Тумашам падлікаў, адказнасьць за тры мільёны 800 тысячаў Беларусаў — страта, якое нельга вытлумачыць інакш, чымся плянавым вынішчэньнем беларускага народу. У сьветчаньні д-ра В. Тумаша падаюцца таксама факты прыступнага злаўжываньня дзіцячай працоўнай сілай у падсавецкай Беларусі, дзе, у выніку бязупынных вывазаў жыхарства ў Сібір і Казахстан, не стае працоўных рук, каб забясьпечыць мінімальныя патрэбы беларускае сельскае гаспадаркі. Падаюцца таксама факты пра русыфікацыю беларускага краю, якая мае ўсе адзнакі культурнага генацыду, за што маскоўскі рэжым нясе маральную й юрыдычную адказнасьць перад Задзіночанымі Нацыямі.

Сьветчаньне сп-ра А. Шукелайця прысьвячанае вынішчэньню рэлігійнага жыцьця на Беларусі зь пералікам зруйнаваных ды папераробліваных на клюбы й тэатры сьвятыняў беларускае сталіцы (Гл. таксама зацемку «Сьветчаньні пра Беларусь у Амэрыканскім Кангрэсе»).

Праз усе пяць сьветчаньняў, зьмешчаных ў кангрэсавым выданьні, выразна праходзіць аднaзгоднае цьверджаньне, што за Хрушчова мэты бальшавізму засталіся тыя самыя — зьмянілася толькі тактыка, больш замаскаваная й вытанчаная, але й больш небясьпечная.

**А. Будзіч**

## Увага! Увага!

**У Выдавецтве «Бацькаўшчына» выйшаў з друку і ўжо прадаецца поўны збор літаратурных твораў вялікага клясыка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча**




**з уводнымі артыкуламі праф. Ант. Адамовіча й д-ра Ст. Станкевіча, з двума партрэтамі аўтара, у прыгожай трохкалёрнай вокладцы мастака Наўмовіча. Кніга мае 294 бачыны друку й каштуе: на лепшай паперы і ў цьвёрдай палатнянай вокладцы 4 амэрыканскія даляры для ЗША і Канады, у папяровай вокладцы й звычайнай паперы — 3 даляры; для краінаў Эўропы, Паўдзённай Амэрыкі й Аўстраліі раўнавартасьць 3 і 2 амэр. даляраў.**

**«Вянок» Максіма Багдановіча гэта, пасьля «Спадчыны» Янкі Купалы, найбольш рэпрэзэнтацыйнае беларускае кніжнае выданьне на Захадзе, якое павінна быць прыдбанае кажным Беларусам і пашыранае сярод нашых прыяцеляў у вольным сьвеце.**

**Купляць і выпісваць можна беспасярэдна з Выдавецтва ў Мюнхэне, а також з Прадстаўніцтваў «Бацькаўшчыны» ў іншых краінах паза Нямеччынай.**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

**УВАГА! УВАГА!**

**Ужо выйшла з друку асобнай кніжкай у Выдавецтве «Бацькаўшчына» ведамая аповесьць Аляксея Кулакоўскага**

**«ДАБРАСЕЛЬЦЫ»**

**з уводным артыкулам Д-ра Ст. Станкевіча. Кніжка мае 112 бачынаў і каштуе ў ЗША і Канадзе 1,5 даляраў, а ў іншых краінах раўнавартасьць 1 амэр. даляра. Купляць і выпісваць можна з Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» й у Прадстаўніцтвах «Бацькаўшчыны» ўва ўсіх краінах паза Нямеччынай.**

**УВАГА, ПАДПІШЧЫКІ ЗША, УВАГА!**

**Просіцца нашых паважаных Падпішчыкаў у Задзіночаных Штатах Амэрыкі, якія атрымоўваюць газэту беспасярэдня з Адміністрацыі, усе залегласьці рэгуляваць у нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча. Ягоны адрас наступны:**

**Mr. B. Danilovich**
**303 Howard St.,**
**New Brunswick, N. J.**

**Тым больш гэтая просьба ськіроўваецца да тых, хто газэту атрымоўвае праз сп. Б. Даніловіча.**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

БЕЛАРУСЫ ТАРОНТА, ГАМІЛЬТОНУ, АШАВЫ, ЛЁНДАНУ І ВАКОЛІЦАЎ!
КАЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А ГАДЗ. 7-Й ВЕЧАРАМ СЛУХАЙЦЕ
**БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПРАГРАМЫ З РАДЫЯСТАНЦЫІ CHWO Ў OAKVILLE, ONT. НА ХВАЛЯХ 1250**
ПАДТРЫМОЎВАЙЦЕ ІХ АБВЕСТКАМІ

**Пішыце на адрас:**

**127 Dovercourt Rd, Toronto 3, Ont.**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

**УВАГА! БЕЛАРУСЫ З КАНАДЫ!**

**Усе залегласьці за газэту ад гэтага часу просіцца рэгуляваць у нашага прадстаўніка сп-ра К. Акулы з Таронта, а не перасылаць беспасярэдня ў адміністрацыю. Залягаючых з падпісной аплатай просіцца паруліцца выраўняць даўгі.**

## Фонд набыцьця помніка

У вадказ на зварот камітэту ў «Бацькаўшчыне» і асабістыя лісты, разасланыя былым вучням сьв. пам. д-ра А. Орсы, пачынаюць паступаць ахвяры. Тут чэк, там паштовы пераказ, пры гэтым пару словаў салідарнасьці.

«Зь вялікім жалем сустрэла я вестку аб сьмерці майго быўшага настаўніка й дырэктара Беларускай Гімназіі — сьв. пам. д-ра А. Орсы. Далучаю свой чэк...» піша сяброўка з Рочэстэру (ЗША).

А гэта вось з Каліфорніі:

«Пасылаю разам з гэтым лістам $5. на памятнік сьв. пам. д-ру А. Орсу. Выбачайце, больш, нажаль, даць не магу, таму што працую сама, зарабляю мала. Мужа вельмі часта з працы звальняюць і цяпер таксама не працуе й няведама калі знойдзе яе, ды ён не атрымоўвае ніякае дапамогі. Прыміце хоць скромны гэты дар. Вельмі шкада, што адышоў ад нас дарагі нам чалавек. Няхай будзе пухам яму хоць чужая зямля!»

На гэта можна адказаць адно. Калі ўсе былыя вучні сьв. пам. А. Орсы з гэткім зразуменьнем адгукнуцца на наш заклік, прыгожы пачын будзе даведзены да канца. Спадзяёмся, што так будзе.

Неабходна адзначыць, што ахвяры паступаюць ня толькі ад былых вучняў сьв. пам. д-ра А. Орсы, але і ад сяброў памёрлага. Некаторыя разам зь ім працавалі ў беларускіх гімназіях, іншыя проста знал й цанілі яго як чалавека.

Зьмяшчаючы ніжэй лісту № 3 ахвярадаўцаў, камітэт дзякуе за складзеныя ахвяры.

**Ліста № 3.**

**(Ахвяры ад вучняў і сяброў-настаўнікаў)**

Д-р Барыс Рагуля (Канада) — 50 дал., д-р Уладзімер Набагез (ЗША) — 30, Міхась Рагуля (ЗША) — 25, Янка Запруднік (ЗША) — 10, Міхась Міцкевіч (ЗША) — 20, Юзэфа Найдзюк (ЗША) — 5, Туся Кушаль (ЗША) — 5, Элеанора (Кінуся) Норык (ЗША) — 5, Н. і Ф. Кушаль (ЗША) — 10, Мікалай Грэбень (ЗША) — 10, З. і К. Вадэйко (ЗША) — 10, Юля Андрусышын (ЗША) — 5, Аляксандар Лошка (З. Нямеччына) — 2.39.

Усяго па лістце № 3 — 187 дал. 39 цэнт. Папярэдня паступіла («Бацькаўшчына» з дня 14-га лютага 1960) — 315 дал. **Разам — 502 дал. 39 цэнт.**

Збор ідзе далей. Калегі, хто наступны ў ганаровай пераклічцы былых вучняў сьв. пам. д-ра А. Орсы?

Чэкі й паштовыя пераказы просім перасылаць на адрас:

Michael Ragula, 385 Alabama Ave.,
Brooklyn 7, N. Y., U. S. A.

Камітэт Набыцьця Помніка на магілу сьв. пам. Д-ра А. Орсы ў Нью Ёрку.

**М. Рагуля**, скарбнік

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec**, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France**, 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).





Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.